# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

нумар 1 — 1931 г.



Паўстаўшыя сяляне ў 1905 г. адмаўляліся араць панскую зямлю. Царскі ўрад пры дапамозе войска прымушаў беднату рабіць на пана.



# МАЛАТАРНЯ

Ішлі раз дзеці са школы. Ідуць і чуюць—нешта гудзе.

— Напэўна недзе самалёт ляціць,—сказаў Алесь.

Раптам убачылі дзеці дымок. Прыслухаліся—адтуль і гул ідзе.

— Пойдзем, паглядзім, што там такое,—парашылі дзеці.

Прышлі. Аж гэта ў колгасе „Новы шлях“ малацілі паравіком.

Дзеці падышлі бліжэй. На вялікім таку адбывалася малацьба. Частка колгасьнікаў падвозіла снапы. Другая частка падавала гэтыя снапы на малатарню. Малатарня гудзе, выбівае зерне з снапоў. А двое хлапцоў адвозяць на вялікіх вазох салому і мякіну.

Паравік з вялікаю трубою пыхкае і гудзе. У печ паравіка падкладалі дровы, каб лепш гарэла. На машыне зьверху было кола. Кола гэта круцілася, а па ім хадзіў шырокі пас. Пас быў перакінуты на меншае кола ў малатарні і круціў яе.

Зьверху на малатарні стаяў чалавек і кідаў у яе снапы. Малатарня гудзела. У сярэдзіне круціўся барабан і сваімі жалезнымі цапамі выбіваў зерне з каласоў. Тут-жа ў малатарні ёсьць і веялка. Яна ачышчала зерне ад мякіны. Зусім чыстае зерне сыпалася з малатарні ў мяшкі. Гэтыя мяшкі зараз-жа завязвалі і адвозілі ў сьвіран.

---

Паравымі малатарнямі малоцяць у буйных гаспадарках—колгасах і саўгасах. Малаціць імі вельмі лёгка і скора. Мала патрэбна чалавечае працы. Паравік можна замяніць трактарам. А ў некаторых вёсках яшчэ малоцяць цапамі. Малаціць цапамі вельмі цяжка і марудна.

Дзеці, раскажэце сваім бацьком, што толькі ў колгасе можна набыць добрыя машыны, тады і працаваць будзе лягчэй і жыць лепей.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 90 к. |
| На 1 год . . . | 1 р. 80 к. |

№ 1 студзень 1931

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25



## СЕМ ГАДОЎ БЯЗ ЛЕНІНА



21-га студзеня 1924 г. у 6 г. 40 хв. вечара памёр правадыр сусьветнага пролетарыяту Ул. І. Ленін. 7 гадоў партыя, савецкая ўлада і ўсе працоўныя ўпарта і настойліва выконваюць заветы свайго правадыра—будуюць соцыялізм. Кожны год адзначаюць сьмерць Ул. І. Леніна праверкай баяздольнасьці сваіх радоў, праверкай таго як выконваюцца заветы правадыра. Справа Леніна жыве ў сэрцах мільёнаў пролетараў усяго сьвету. Пад сьцягам Леніна працоўныя нашай краіны здабылі волю ў Кастрычніку 1917 г., пад сьцягам Леніна здабудуць волю і працоўныя ўсяго сьвету.

# КРЫВАВАЯ НЯДЗЕЛЯ

## 9-е студзеня 1905 г.

МАКСІМ ГОРКІ

(*Урывак з апавяданьня*)

**У гэтым апавяданьні Максім Горкі расказвае, як цар у 1905 годзе стрэў рабочых, што ішлі да яго прасіць волі і лепшага жыцьця. Рабочыя яшчэ верылі ў цара, думалі, што цар нічога ня ведае пра іх цяжкае жыцьцё. Але цар і нават блізка не падпусьціў да сябе рабочых. Ён загадаў войску страляць у народ. Пасьля гэтага крывавага дню ўжо ніхто з рабочых ня верыў, што цар можа даць ім палёгку.**

**„Волю ня просяць, а заваёўваюць“—сказалі сабе рабочыя і пачалі гуртавацца, каб сілаю зьнішчыць і цара і ўвесь яго парадак.**



*На барыкадах*

Калі натоўп народу выліўся на вуліцы на бераг ракі да Троіцкага мосту і ўбачыў перад сабою шарэнгу салдат, што загарадзілі дарогу,—людзей ня спыніла гэтая шэрая агарожа. Салдаты здаваліся звычайнымі, добрымі людзьмі. Яны тупалі, скакалі, штурхаліся, каб нагрэцца. Сьпераду, за ракою, людзі бачылі цёмны дом. Гэта быў царскі палац.

Але ўсё-ткі пярэднія сьцішылі хаду. Некаторыя аглядаліся назад, другія адышліся ў бок.

Нечы голас сказаў:

— Холадна салдатам.

— А трэба стаяць.

— Салдаты для парадку.

— Ура, салдаты!—крыкнуў нехта.

Афіцэр у жоўтым башлыку на плечах, узьняўшы ўверх шашку, нешта крычаў да людзей, махаючы ў паветры сагнутаю палоскаю сталі.

Салдаты пасталі ў строй, плячо ў плячо, адзін з другім.

— Чаго гэта яны?—запыталася жанчына.

Ёй не адказалі.

— Назад!—пачуўся крык афіцэра.

Некалькі чалавек вышла наперад.

— Мы да цара нашага!

— Назад! Я загадаю страляць!

Худы высокі чалавек раптам закрычаў:

— Страляць? Ня сьмей!

Шум нарастаў. Чуваць былі гнеўныя крыкі. А сьпераду блішчалі салдацкія штыкі.

Людзі махалі белымі хустачкамі і ішлі наперад.

— Як гэта страляць? Навошта гэта?—гаварыў пажылы чалавек з сівізною ў барадзе. Проста яны ня пускаюць на мост... хочуць, каб ішлі па лёдзе...

І раптам у паветры штосьці рассыпалася. На міг усе галасы замерлі. Людзі спакойна ішлі наперад.

— Пустымі...—ня то сказаў, ня то запытаўся нехта.

Але тут і там пачуліся крыкі, людзі застагналі, каля ног людзей лягло некалькі цел. Жанчына, моцна войкаючы, схапілася рукою за грудзі і борзда пашла наперад, проста на штыкі. За ёю кінуліся яшчэ людзі і яшчэ, забягаючы наперад за яе.

І зноў засьвісталі кулі...

Людзі кідаліся па-двое, па-трое, прысядалі на зямлю, хапаючыся за жываты, беглі некуды, кульгаючы, паўзьлі па сьнягу і ўсюды на сьнягу загараліся чырвоныя плямы...



*Казакі разганяюць забаставаўшых рабочых*



# Памятныя дні

У школу, разам з настаўнікам, увайшоў стараваты ўжо чалавек у чорнай шкураной вопратцы.

— Добры дзень!—сказаў ён дзецям.

— Добры дзень! Добры дзень!—адказалі яму з усіх бакоў дзеці і сьцішыліся.

— Таварыш Мурташоў раскажа вам аб 1905 годзе,—сказаў настаўнік Мікола Зьмітравіч,—слухайце ўважліва.

Але дзеці і бяз гэтага ўсе сьціхлі і падрыхтаваліся слухаць.

— Быў я тады малады і дужы,—пачаў Мурташоў.—Я працаваў сьлёсарам на фабрыцы ў гаспадара. Быў яшчэ ў мяне старэйшы брат, Сяргей, а ў яго двое дзяцей: Волька і Міцька. Міцьку было гадоў чатырнаццаць. Бацька ў нас быў ужо стары. Працаваў ён машыністым на чыгунцы.

Памятаю я, як-бы гэта было ўчора, прыбягае наш Міцька дамоў і гаворыць, аглядаючыся па бакох:

— Савельлева арыштавалі.

А Савельлеў быў наш сусед. Таксама рабочы.

Мы перапалохаліся. Старэйшы брат Сяргей зараз-жа апрануўся і вышаў з хаты. Выходзячы толькі сказаў мне:

— Глядзі дзяцей.

А пайсьці яму канешне патрэбна было, бо ён з арыштаваным Савельлевым у адным падпольным гуртку працаваў. Маглі арыштаваць і яго. Мабыць, нехта пранюхаў аб працы гуртка. Але не пасьпеў наш Сяргей выйсьці з хаты,—як яго злавілі паліцэйскія.

— Ну, Васіль,—кажа мне бацька,—глядзі, каб і цябе не схапілі.

Я дачакаўся цямна і цішком вышаў з хаты.

Зайшоў я на чыгунку, улез у пусты таварны вагон і сяджу. Раптам чую—падыходзіць цягнік. Шум, крыкі, спрэчкі. Вылез я з вагона і слухаю. Аж гэта салдаты вяртаюцца з фронту. Тады перад 1905 годам была ў цара вайна з японцамі. Вайна кончылася. Салдаты былі сярдзітыя, бо іх абманулі, прымушалі ваяваць не за інтарэсы рабочых і сялян, а за інтарэсы паноў і капіталістых.



*Тыя, хто задушыў рэволюцыю 1905 году.*

А тут салдаты ўбачылі, што цар яшчэ не здаволіўся крывёю, што яму мала загінутых на вайне салдат, што ён яшчэ горш пачаў прыгнятаць рабочых і сялян.

Сярдзітыя былі салдаты.

Вылез я з вагона і чую, як гавораць яны з рабочымі:

— На нас спадзявайцеся,—кажуць яны,—мы падтрымаем. Беце іх—жандармаў і паліцэйскіх!

А рабочыя ўжо даўно пачалі ўставаць супроць цара. Забастоўкі пашыраліся ў краіне. Усюды пачаліся бойкі рабочых з паліцэйскімі, а сяляне памешчыкаў пачалі разбураць. Вось і цікава было рабочым, за каго салдаты пойдуць—за цара ці за рабочых?

Чую—усё больш і больш падыходзіць нашых рабочых. І я падышоў да салдатаў. Раптам аднекуль узяўся афіцэр. Як крыкне ён на салдат:

— Марш у вагоны!

Салдаты гаманілі, патупалі на месцы, але пашлі ў вагоны.

— А ты чаго тут? —крыкнуў на мяне афіцэр.

— А вы,—я кажу,—што да мяне маеце? дзе хачу, там і стаю.

Афіцэр узлаваўся, затупаў на мяне нагамі. А я яму кажу:

— Не скачы так, ваша благародзьдзе, боты патопчаш.

Тут клікнуў ён двух салдат, а тыя як-бы і ня чулі.

— Што,—кажу я,—скончылася твая ўлада.

Плюнуў я і пашоў.

— Стой, бо застрэлю, як сабаку!—крыкнуў на мяне афіцэр. Я да яго.

— Страляй!—кажу.

Бачыць афіцэр, што акружылі нас рабочыя, і збаяўся. Задзынкаў шпорамі і пашоў. А нашы яму:

— Цю-лю-лю.

Праз паўгадзіны глядзім мы: афіцэр ідзе з цэлай хэўрай. Чалавек пяць жандармаў ідуць за ім.

— Бярэце яго,—паказаў на мяне афіцэр пальцам. Жандармы рады старацца, а тут і пачалося. Выходзіць наперад салдат з вінтоўкай і камандуе!

— Стой! Няма права такога—рабочых арыштоўваць. Заварочвай аглоблі назад.

Жандармы не паслухалі, а салдат сваё:

— Адыйдзі, бо пуза куляю праб'ю!

Не пасьпеў ён сказаць гэтага, як афіцэр у яго з рэвольвэра стрэліў і насьмерць забіў.

З усіх бакоў салдаты выскачылі. Убачылі яны забітага свайго таварыша і тут-жа афіцэра штыхамі закалолі. Двух жандармаў таксама забілі, а трое пасьпелі ўцячы.

Пад раніцу вайсковы цягнік пашоў. Убачыўшы, што ў нас няма абароны, конныя паліцэйскія і жандармы акружылі нашы чыгуначныя майстэрні і пачалі арыштоўваць рабочых.

Я схаваўся ў сям'і знаёмага качагара. Чатыры дні ішлі вобыскі, арышты і забойствы.

Але мы не здаваліся, а ўпарта змагаліся з уладаю цара. Тут я ўпяршыню сустрэўся з таварышамі з партыйнага камітэту. Гэта былі бальшавікі. Ад іх я даведаўся, што ў Маскве пачалося ўзброенае паўстаньне рабочых, што нам таксама патрэбна хутчэй выступіць арганізавана са зброяй у руках.

Я, па даручэньні камітэту, скора стаў камандзірам узброенай сотні рабочых.

25 сьнежня, роўна ў 11 гадзін ночы, у нас на заводзе загулі гудкі.

Гэта быў знак для выступленьня. А неўзабаве пачалі расьці барыкады. Раніцай адбылася бойка.

Мы тры разы адбівалі казакоў. Наш чырвоны сьцяг разьвяваўся над барыкадамі. Але вось вораг падцягнуў гарматы, выпусьціў з іх некалькі стрэлаў, і ад нашых барыкад нічога не засталося. Пачаліся пажары.

Убачыўшы, што нам ворага ня стрымаць, мы адступілі да ракі.

Адступаючы, я прабег каля нашай хаты. Я ўбачыў і адразу не паверыў. Бацька мой ляжаў каля варот у лужыне крыві. Галава яго была прастрэлена ў трох месцах. Тут-жа—забітая жонка Сяргея.

Каля ракі мы далі апошні бой. Нас засталося зусім мала. Выпусьціўшы ўсе кулі, я кінуўся ў раку. Рака была шпаркая, але ня шырокая. Пераплыўшы раку, я аглянуўся. На высокім беразе стаяў хлопчык, гадоў чатырнаццаць, і адстрэльваўся ад жандармаў.

Я не пасьпеў крыкнуць:

— Міця!

... як хлопчык кінуўся, падкошаны куляю.

— Дык вось, дзеці,—ціха сказаў Мурташоў,—прайгралі мы першую рэволюцыю, але гэта было часова. Гэта была падрыхтоўка да больш магутных боек. Ленін сказаў, што 1905-ты год— гэта падрыхтоўка да Кастрычніка.

Ітак, браты, і бацька, і маленькі Міця, і тысячы другіх пролетараў сваёю крывёю наблізілі Кастрычніцкую рэволюцыю, а загінутыя ў Кастрычніку наблізілі час рэволюцыі сусьветнай.



**Нямецкія акцябраты протэстуюць супроць зьверскіх распраў капіталістых над іх бацькамі-рабочымі**



# ВЯСЁЛАЯ ЗІМА

*Верш А. Ч.*
*Малюнкі РУБАНА*

* * *

На дварэ
Сьняжок пушысты.
Як папера,
Белы, чысты.
Рэдкі, ліпкі,
Нібы гліна,
Мяккі, пульхны,
Як ваціна.
Дзеці выбеглі
'Шчэ зранку
На шумлівую
Гулянку.
І крычаць,
Крычаць з усьмешкай:
— Гэй, у сьнежкі!
— Гэй, у сьнежкі!
— Бабу зьлепім!
— З барадою!
Гэй, за мною!
Грамадою!
І ўсе весела,
З ахвотай
Узяліся за работу.
Коцяць дружна
Сьнегу скруткі
З агародаў
І закуткаў.
За галушкаю
Галушка—
Расьце баба,
Як кадушка,
Вось якая
Ў нас бабуля!
Нос таўсты,
Як бэра-дуля
І гарбатая,
Крывая...
— Шчэ чагосьці
Не хапае?!
Да хлапцоў
Паўлюк гукае.

— Квасам, квасам
Нос абліць!
З вугля вочы
Парабіць!

— Завязаць
Анучу-хустку,
Даць у жменю
Хлеба лусту,
Хай вяселіцца
Старая,
Дзетвару ўсю
Пацяшае!

Ї за міг стаіць
Бабулька,
Як жывая,
Нават з люлькай.

— Вось дык сьнег!
— Вось дык сьнег!
Шум і сьмех,
Крык і сьмех.

* * *

А на рэчцы
Сьвішча лёд,
Дзеці ладзяць
Калаўрот.

Калясо
Прынёс Якім,
Свае санкі
Вязе Клім.

Жэрдку выцягнулі
З плоту
Ї ўзяліся
За работу.

Нібы шкло,
Сьвіціцца лёд.
Загудзіць калаўрот!
Так ад самага аж ранку
Дзеці ладзяць
Пагулянкі.






Маленькая Тоня сядзіць на падлозе. Робіць дом з рознакалёрных цаглінак.

Кот Пячнік—насупроць яе, наглядае за работаю Тоні. Забыўся нават пра сваю цёплую печку.

Асьцярожна, цаглінка за цаглінкаю, кладзе Тоня. Ад стараннасьці нават язык набок высунула.

Вунь які высокі дом выходзіць, у тры паверхі! Першы раз такі дом удаўся.

— Міхась! — кліча Тоня брата,— паглядзі, які дом у мяне. Высокі! Міхась падышоў і кажа:

— Добры дом, але, каб вышэйшы зрабіць— цікавей будзе.

А вось кот Пячнік, відаць, здаволены такім домам,—сядзіць, любуецца ім.

Раптам аднекуль узялася вялікая муха... Села на дом, поўзае па сьцяне—аглядае дом.

Убачыў муху кот Пячнік, затурбаваўся... Як падскочыць, як хопіць яе лапкаю... Ня лезь!..

Паразьляталіся ў розныя бакі цаглінкі... Дом рассыпаўся...



Тоня—у сьлёзы. Моцна заплакала. Вось табе і дом!

Падбег Міхась і кажа да яе важна:

— Ну, чаго-ж ты равеш? А яшчэ ў акцябраты хочаш. Так не гадзіцца. Ты бярыся за работу зноў. Будуй новы дом, але большы.

Выцерла сьлёзы Тоня,—кладзе цаглінку на цаглінку.

Будзе ў яе цяпер дом высокі, добры, лепшы за той.

І ката-шкодніка яна да яго не падпусьціць.

*Ніна Ляпцева.*



# ФЭЛЬКА

*Апавяданьне*
*УС. ШЫДЛОУСКАГА*

*Малюнкі РОЗАНАВА*



Была раніца. Шэры змрок слаўся па зямлі і ледзь было прыкметна, што пачынаўся дзень. На ўскраінах гораду пераклікаліся гудкі заводаў і чорны дым цэлай хмарай вылятаў з вялізарных, цагляных камінoў.

Малы Фэлька сягодня прачнуўся раней, чым заўсёды. Ён хутка апрануўся, памыўся і пачаў зьбірацца ў школу.

— Чаго ты гэтак зараньне ўстаў?—запыталася маці.

— Мы сягоньня на завод пойдзем і настаўніца нам сказала прыйсьці раней у школу,—адказаў Фэлька.

— На завод? А хіба вас малых туды пусьцяць?

— Вядома пусьцяць. Наша школа прымацавана да заводу, дзе робяцца плугі і там мы будзем вучыцца працаваць. Ужо нават і дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва з заводам падпісалі.

І Фэлька сеў сьнедаць. Ён хутка еў—баяўся, каб не спазьніцца.

Надзеўшы сьвітку і старую бацькаву шапку, Фэлька выбег на вуліцу. Раніца была марозная і белая пара клубочкамі вылятала з роту і носу.

На вуліцы Фэлька спаткаўся са сваім сябрам Зэшкам, які таксама сьпяшаўся ў школу.

— Ну як, мы ня спозьнімся?—пытаў Фэлька.

— Ды не. Яшчэ толькі сем гадзін, а нам трэба ў восем.

І яны, вясёлыя, хутка пайшлі ў школу.

Там ужо сабралася многа дзяцей. Усе жадалі хутчэй ісьці на завод. Нарэшце прышла настаўніца Маня Язэпаўна. Яна паставіла вучняў у шэрагі і ўсе рушыліся на завод.

Вялізарны будынак з двумя высокімі цаглянымі камінамі здаваўся для дзяцей зусім новым. Яны яго бачаць толькі першы раз, а да гэтага часу не спатыкалі такіх будынкаў. Дзеці цэлым натоўпам кінуліся да дзьвярэй і апынуліся ў вялікім і сьветлым пакоі. Там было безьліч розных машын і кожная па свойму круцілася і зьвінела.

— Пачакайце, дзеці, мы агледзім усё папарадку,—сказала Маня Язэпаўна.—Хадзеце сюды бліжэй!

Вучні сабраліся вакол настаўніцы і яна пачала ім тлумачыць для чаго тут розныя машыны.

Усе ўважліва слухалі.

Для дзяцей было зусім нова і цікава на заводзе. Яны хадзілі па ўсіх цэхах і глядзелі, як робяцца плугі. Тыя самыя плугі, што на колгасных палёх разрываюць дзядоўскія межы, што па-новаму варочаюць ральлю.

Сьвішча жалеза пад



стругам варштату, адлятаюць бліскучыя стружкі ў бакі і выходзяць моцныя часткі плугоў. Іх забіраюць у другі цэх, змацоўваюць шрубамі і гатовыя плугі становяцца ў рады пад павецьцю на заводзе, а адтуль уже разьбягаюцца па колгасах.

Фэлька больш за ўсіх цікавіўся работай. Ён ня мінаў ніводнай рэчы, каб ня спытацца для чаго яна. Рабочыя ветліва адказвалі Фэльку на ўсе пытаньні і нават паказалі, як пляскаць малатком гарачае жалеза.

Аглядзеўшы ўвесь завод, дзеці пашлі дамоў.

На вуліцы слаўся мяккі сьнег і лагодна чапляўся на сьвіткі. Вясёлы сьмех і крыкі дзяцей былі далёка чутны... Яны ведаюць, як робяцца плугі і шчаслівыя беглі дамоў, каб расказаць аб тым, што бачылі на заводзе.

Фэлька прынёс у хату кавалак жалеза, што валяўся пад плотам і пачаў яго пляскаць малатком.

— Што ты, сынку, робіш?—пыталася маці.

А Фэлька, нібы дарослы, адказаў:

— Плуг раблю, каб у колгас яго пасланы, бо там ён дужа патрэбен.





# ДЗІУНЫ МАЙСТРА

*(загадачка)*

Толькі к нам зіма прыходзіць,
З ёю дзіўны майстра ходзіць,
І як стрэне дзе ваду ён—
Зараз тут масты будуе.
Ні пілуе,
Ні стругае,
Нават струманту ня мае.
Ні кіёчкаў табе з лесу,
Ні каменьня, ні жалеза,
Цьвікоў нават ня ўбівае,
Стуку, груку ня ўзьнімае.

Сам адзін і ўдзень і ўночы
Ён майструе так ахвоча.
А праз дзён чатыры-пяць
На рацэ масты ляжаць.
Толькі шкода, што вясною
Паплывуць яны з вадою.

---

Вы па тых мастох гулялі
І хіба-ж не адгадалі?

(З украінскае мовы).



# ПАЧАЎСЯ ТРЭЦІ ГОД ПЯЦІГОДКІ.

Калі працоўныя Савецкага Саюзу складалі пяцігодкў соцыялістычнага будаўніцтва, дык замежныя капіталістыя нема крычалі:

— Нічога ў бальшавікоў з пяцігодкі ня выйдзе, гэта хлусьня!

— Выйдзе!—адказалі працоўныя замежным капіталістым.

— Мы выканаем пяцігодку за чатыры гады!

— Выйдзе!—адказала партыя Леніна і вызначыла самыя кароткія, самыя правільныя шляхі да нашай мэты—канчатковай пабудовы соцыялізму.

Ня лёгкія гэтыя шляхі. Трэба перамагчы шмат цяжкасьцяй, шмат ворагаў. Трэба працаваць з усяе сілы.

Два гады пяцігодкі ўжо прайшлі. За гэтыя два гады працоўныя, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, маюць вялікія посьпехі. Усё тое, што вызначалася зрабіць за гэтыя два гады пяцігодкі, у асноўным зроблена з перавышэньнем. Значыцца, *выканаць пяцігодку за чатыры гады мы зможам!*



Новы завод, на якім выплаўляюць чугун.



Ударнікі за працай

З першага студзеня гэтага году пачаўся трэці год пяцігодкі. Гэты год пяцігодкі—рашаючы год. У гэтым годзе мы павінны зрабіць усяго куды больш, чым рабілі ў першыя гады пяцігодкі.

На трэці год вызначаны вялікія лічбы па будаўніцтву. У Беларусі для будаўніцтва буйных заводаў, фабрык вызначана ў гэтым годзе 109 з паловай мільёнаў руб. Гэта ў два разы больш, чым у мінулым годзе.

За тое-ж і прамысловасьць наша ў гэтым годзе дасьць у два разы больш вырабаў.

Вялікія посьпехі мы маем і ў колектывізацыі сельскае гаспадаркі. 100 тысяч бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак Беларусі жывуць у колгасах. Гэта складае 17 процантаў усіх гаспадарак. А за трэці год пяцігодкі вызначана павялічыць гэтую лічбу да 45 процантаў. Раней у Беларусі зусім ня было трактароў. Цяпер ужо ёсьць 800 трактароў. А ў трэцім годзе пяцігодкі гэта лічба на шмат павялічыцца.

Разам з ростам нашай гаспадаркі расьце і культура. Раней у нас было больш палавіны людзей зусім няграматных. Цяпер-жа ўведзена ўсеагульнае навучаньне. *Да канца трэцяга году пяцігодкі ўсё насельніцтва ад 12-ці да 45 гадоў будзе граматным.*

Пасьпяховае выкананьне пляну трэцяга году пяцігодкі будзе лепшым адказам працоўных усім нашым ворагам—капіталістым, шкоднікам, беларускім нацыянал-дэмократам, якія стараюцца зьнішчыць Савецкую ўладу.

Дзеці павінны дапамагаць сваім бацьком выканаць усе тыя задачы, якія стаяць у трэцім годзе пяцігодкі. Патрабуйце ад сваіх бацькоў, каб яны добра працавалі на фабрыках і заводах, каб усе запісваліся ва ўдарныя брыгады.

Вясковыя дзеці павінны патрабаваць ад сваіх бацькоў, каб яны ўступалі ў колгасы.

Разам з бацькамі, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, выканаем і перавыканаем плян трэцяга году пяцігодкі. Р. Ш.



Пабудова новага заводу




*(Урывак з апавяданьня А. Ч.)*

Сонца пасылала зямлі свае астатнія ўсьмешкі - пацалункі. Захад загарэўся ружовым агнём. Гэты агонь перакідаўся з хмаркі на хмарку, хапаўся за іх, квітнеў, а потым асядаў, ды ўцякаў усьлед за сонцам.

У паветры было вільготна, пахла маладою квітнеючаю вясною. Пах кветак зьмешваўся з пахам сьвежай ральлі пад ярыну, з сьвежым гноем, што не пасьпелі людзі заараць за дзень.

Адступіўшы колькі шагоў, роўнаю сьцяною прылягае да хутара, дзе жыў кулак Вінцэсь і яго былы батрак Тамаш, колгаскі палетак. А за палеткам, каля старой школы, у канцы вёскі—цэнтр колгасу. Будуецца вялізарная абора, мураваны дом для клюбу і новай школы.

Сьцёпка — сын Тамаша — вышаў з дому, пастаяў, паглядзеў кругом ды падаўся пад колгас.

„Пайду, — падумаў ён, — да Юзіка, пагуляю“.

З Юзікам Сьцёпка сябруе ўжо ня першы год. Яны разам вучыліся, разам канчалі школу, звыклі адзін да другога, і Сьцёпка ня можа доўга вытрымаць, каб не пабачыцца з Юзікам. Маркотна на хутары. Няма жывога чалавека. Дома надакучае ваявацъ з меншымі ды слухаць розныя бацькавы згрызоты.

Ён мінуў колькі будынкаў і завярнуў на знаёмае прыгуменьне. Гумно было адчынена насьцеж. Сьцёпка, ня мінаючы, зірнуў хто тут.

— Гэта ты, Юзік? — сказаў Сьцёпка, і падышоў, каб прывітацца. Юзік стаяў пасярод току і ўглядаўся на нейкую скрынку.

— Што гэта за катрынка ў цябе? — запытаўся Сьцёпка, утаропіўшыся на гэтую, ніколі нябачаную ім, скрынку.

— Гэта машына!—бойка адказаў Юзік.

— Машына?! — зьдзівіўся Сьцёпка. Усе колгаскія машыны ён бачыў, але такой не заўважыў. Гэта проста скрынка, на ножках, падобная на конскі жолаб, але прычым тут вялізарная лямпа збоку?

— Вось машына! Ну і выдумаюць-жа людзі: скрынка і тая машына?!

Сьцёпка аглядае, шчупае „машыну", а Юзік стаіць, узяўшыся ўбокі, і качаецца сосьмеху.

— Асьцярожна — разарве, не падступайся!—жартуе ён.

Сьцёпка адскочыўся.

— А ліха яе ведае, можа з порахам?

— Тут, брат, такі порах, што як разарвецца, дык ня будзе дзе дзецца. Жывыя кулі пасыплюцца...

— Ну, не жартуй, што гэта такое?—просіць Сьцёпка Юзіка, каб расказаў. А той рад сваёй выдумцы, поўзае сосьмеху і страшыць Сьцёпку.

— Гэта, брат, кулямёт, прыходзь заўтра, паглядзіш, як ён будзе страляць.... куранятамі! Ён страляе рэдка, толькі праз тры тыдні раз.

Яшчэ больш заблытаў справу Юзік такім адказам. Кулямёт? страляе?.. куранятамі?

— Ня скажаш, — падступіўся Сьцёпка да „кулямёта",—пачну страляць па табе, — асьмеліўся ён, бо ня мог больш стрымаць сваю цікавасьць.

Юзік борзда падскочыў пад „машыну", хапіўся за верхні столік і высунуў яго са скрынкі.

— Вось якімі кулямі заражаны мой кулямёт, глядзі!

— Ды гэта-ж яйцы! Самыя сапраўдныя курыныя яйцы! — закрычаў Сьцёпка, нібы ён адкрыў цэлую Амэрыку, а да яго ніхто гэтага ня ведаў. — Што ўсё гэта азначае?

Юзік паглядзеў на Сьцёпку ды матнуў галавою:

— Дзік ты, Сьцёпка. Жывеш, як у магіле...

А потым зноў весела разрагатаўся шчасьлівай радасьцю.

— Гэта такі і ёсьць машына. Яна выводзіць нам тысячы куранят. А я — загадчык машыны. Цяпер ведаеш?



— Яшчэ горш нічога ня ведаю,—адказаў зьбіты з толку Сьцёпка.

— Ну, брат, мы разам вучыліся і ты лепш за мяне ва ўсім разьбіраўся, а цяпер я буду вучыць цябе, так і быць. Гэта інкубатар. Чуў калі?

— Першы раз, т. настаўнік,—шчыра прызнаўся „вучань".

— Дык слухай уважна, бо за нядбайнасьць пакіну пасьля абеду на ўвесь вечар аднаго ў клясе,—падрабляючы вугнявы голас настаўніка Ганжына, у якога яны вучыліся,—гаварыў Юзік.

— Вось бачыш столікі, адзін два, тры, чатыры, пяць,—пералічыў Юзік,—гэта—рэшата з яйцамі. У кожным па 30 дзесяткаў яец. А квактухаю тут служыць вось гэта машына,—паказаў ён на лямпу з боку інкубатара.

— Ну, і што з гэтага?—не разумеў Сьцёпка.

— А тое, што скрынка інкубатара зроблена шчыльна, туды пападае цяпло ад лямпы, а гэта ўсё, што трэба для таго, каб вывяліся кураняты. І мая машынка не падкачае. Пры добрым доглядзе праз тры тыдні мы маем паўтары тысячы куранят. Ужо адзін раз вывяліся. Гэта другі зарад кулямёта. Ты ўяўляеш колькі курэй будзе мець наш колгас толькі за адно лета?

— Вось гэта дык размах! Тысячы курэй бяз клопату!

— Вунь зірні, які шалаш робіцца для мае арміі,— паказаў Юзік на агароды.

І сапраўды там узвышаўся дашчаны гмах на цэлыя ганкі.



Ужо выведзены сьцены і пастаўлены крокы. Жоўтыя, чыстыя дошкі зіхацелі ў блясках патухаючага дня.

— На наш колгас, — кажа Юзік,—гэта размах. Мы толькі сёлета пачынаем жыць колектыўна. А ўжо глядзі, што робіцца. І які за курамі догляд? Дзеці будуць пасьвіць іх. Што рабіць дзецям?

Юзік зусім парамяніўся. Гэта ня той маўклівы і задуменны хлопчык, сын бедняка Макара, якога ведае Сьцёпка. Юзік цяперашні—жывы, шустры, вясёлы хлапец. Сьцёпка здружыўся тады з Юзікам, бо абодва яны былі аднэй натуры. А цяпер нейкая прорва вырастае паміж імі, і што дальш, усё больш шырыцца ды разлучае былых таварышоў.

— А ты бачыў наш сапраўдны завод?—запытаўся Юзік.

— Які?

— Завод, роўнага якому ў вакрузе ня будзе. Ужо канчаем будаваць. Пра млын чуў?

— Чуў, але-ж гэта не завод, а млын.

— А якая розьніца?—не здаваўся Юзік. Млын, то думаеш не завод? Самы сапраўдны вадзяны млын, такі, як і ў Тураўцох. Але гэта будзе не за дваццаць вёрст у Тураўцох, а ў колгасе „Перамога".

— Праўда, гэта цэлае зда-



рэньне ў нашых краёх. Свой млын. Як зямля зарадзілася ня было тут млына, а гэта раптам за адну вясну... — гаварыў Сьцёпка і дзівіўся такім раптоўным пераменам.

Сонца ўжо закацілася за аддалёны лес, які на фоне чыстага Захаду выразаўся брыжастаю цёмнаю сьцяною. На дварэ зьмяркалася. З бліжэйшага балотца галасьней закрумкалі жабы. Гэта іх звычайная вячэрняя песьня. Потым з поля пачулася палахлівае іржаньне жарабяці, якое, відаць, асталося ад маткі.

— Хадзем у хату, — сказаў Юзік, зачыняючы гумно. Газы павінна хапіць на ноч, а заўтра

канчаецца час, прыходзь пагля-
дзець на маю новую армію.

— І ты іх камандзір,—пажартаваў Сьцёпка. А сам у душы шчыра пазайздросьціў таварышу. Якая прорва паміж імі.

— Павячэраем і сходзім пад школу, там сёньня сход... І ведаеш, што за сход?

— Не,—матнуў задуменны Сьцёпка.

— Цябе будзем прымаць у колгас. Чуў?

— Ну, ты нейкі дзівак. У цябе дзіва за дзівам,—адказаў Сьцёпка. Мяне-ж тады ня прынялі, бо я-ж малы... Я з дарагой душы кінуў - рынуў-бы гэты праклʼяты хутар, дзіка там, маркотна... Ды якое жыцьцё ў нас. Бацька слухае кулака Вінцэся, ня ідзе да людзей у колгас.

— Усё робіцца, як ня трэба лепш. Мы праводзім суцэльную колектывізацыю. І Вінцэсю—нашаму ворагу—ня месца пад бокам колгасу. А бацьку твайго... Ну, тут яшчэ ўсё можа быць. Бацька твой несьвядомы падкулачнік, цёмны чалавек.

— Гэта ясна,—кажа Сьцёпка, а сам ловіць і ўдумліваецца ў кожнае слова.

— Значыцца, сёньня па гэтай справе сход склікаецца?

— Але. У нас цяпер гэта самая важная справа,



— Табе, мусіць, выдалі бацінкі,—сказаў Сьцёпка, зірнуўшы на новыя Юзікавы бацінкі і свае нязграбныя атопкі з шырокімі вушкамі.

— Ну але, нам усім далі бацінкі і адзежу. Ты вось пабачыш маю ватоўку,—хваліўся Юзік.

„Некалі ў нас роўныя былі лапці,—падумаў Сьцёпка.—І ты, як я, ня меў лапцяў з вузкімі вушкамі, а цяпер...“

— А я, брат, сёньня араў гару каля камяніц, — сказаў Сьцёпка.—Ой, колькі бяды набраўся! Няхай яе пяруны высмаляць. Адно каменьне і жарства... Рады ня даў...

— Бо табе яшчэ не па сіле такая работа. У колгасе гэтага не дапусьцілі-б. Бачыш, якую я работу раблю. Лёгкая і карысная. У нас кожны робіць па сіле. Калі я падрасту, папрашуся на курсы трактарыстых. Хачу быць трактарыстым. З такою гаворкаю хлопцы ўвашлі ў хату.

# ПІОНЕРЫ ДАПАМАГЛІ

Пачалася зіма. Дні сталі хмурныя, халодныя. Сонца рэдка калі паказваецца, бо хмары не даюць яму глядзець на пакрытую сьнегам зямлю. Гуляць на вуліцы нельга, бо холадна.

Сумна было васьмігадоваму хлопчыку Міхаську аднаму сядзець у хаце. Сябры на яго забыліся, бо ўсе яны ходзяць у школу вучыцца. Ён часта прасіў матку, каб завяла яго ў школу, але яна казала:

— Ты, Міхаська, яшчэ малы, у школу хадзіць табе рана.

Але адзін раз, калі маці прышла з работы, у хату ўвайшло трое дзяцей—два хлопчыкі і адна дзяўчынка. Былі яны з чырвонымі гальштукамі. Міхаська здагадаўся, што гэта піонэры, але ня ведаў чаго яны прышлі. Убачыўшы Міхаську яны запыталі ў маткі, колькі яму гадоў і ці ходзіць ён у школу. Потым запыталі прозьвішча і імя, запісалі ў кніжку і сказалі:

— Ваш Міхаська павінен хадзіць у школу. Яму ўжо восем год. Цяпер уведзена ўсеагульнае навучаньне.

Міхаська ня ведаў, што такое ўсеагульнае навучаньне, але вельмі хацеў вучыцца. Ён узрадваўся, бо ведаў, што цяпер маці яго пусьціць хадзіць у школу.

Раніцою прачнуўся Міхаська ў сем гадзін. Скоранька апрануўся, чыста памыўся, выпіў, сьпяшаючыся, гарбаты і пашоў ў школу. Там яго спаткала многа дзіцячых галасоў. Усе яго сябры былі там.

З гэтага часу Міхаська пачаў кожны дзень хадзіць у школу.

Вучань *Ян Завадзкі.*



Малыя паляўнічыя

# РАДАСНЫ АД'ЕЗД

*Апавяданьне К. ДМІТРАВАЙ* *Малюнкі РОЗАНАВА*

Нявесела жыць сямігадоваму Петрыку.

Бацька яго стрэлачнік і жывуць яны далёка ад гораду, і нават далёка ад вёскі. Адзінока стаіць іх хатка—чыгуначная будка. Самае цікавае ў жыцьці Петрыка, гэта калі праяжджае цягнік. Якіх толькі вагонаў ён ня бачыў?! Часта Петрык пытаецца ў бацькі, што і куды вязуць.

— Тата, колькі бярвеньняў у вагоне! Навошта гэтулькі?— кажа Петрык, гледзячы на таварны цягнік.

— Гэта вязуць лес. З яго будуць будаваць дамы, рабіць сталы, шкафы і наогул многа розных рэчаў,—адказвае бацька.

Едзе другі цягнік з вугалем. Петрык таксама пытаецца:

— А вунь колькі вугалю вязуць! Куды гэта?

— У горад. Усе фабрыкі і заводы апальваюцца вугалем. Машынам на электрычнай станцыі і іншым машынам патрэбен вугаль,—тлумачыць бацька.

— „Што там за горад такі, як там усё пабудована?"—думае хлопчык.

А вясной і летам, калі праходзяць пасажырскія цягнікі, колькі дзяцей ён бачыць у вокнах. З чырвонымі гальштукамі хлопчыкі і дзяўчаткі глядзяць у вокны, сьмяюцца, сьпяваюць песьні.. Бацька растлумачыў Петрыку, што гэта едуць піонэры ў лягеры, у дамы адпачынку, у санаторыі. Хлопчык заўсёды думаў пра іх:—Вось каму весела жыць.



Бягуць, бягуць цягнікі—таварныя, пасажырскія, скорыя, паштовыя... Усе едуць кудысьці, аднекуль, чаго толькі яны не вязуць! Петрык бачыў нават, што вязуць кароў, коней... А ён ўсё адзін у сваёй хатцы. Няма з кім гуляць, нікога ня бачыць... Добра хоць бацька ў вольны час расказвае яму пра горад, пра заводы, пра піонэраў. З кожным днём Петрыка ўсё больш цягне ў горад, да другога жыцьця. Ён доўга, доўга глядзіць на адыходзячы цягнік.

Урэшце, аднаго разу хлопчык ня вытрымаў і заплакаў.

— Што з табою, сынок?— зьдзіўлена запытаў бацька.

— У горад хочацца... да дзяцей... вучыцца...,—праз сьлёзы адказаў Петрык.

— Ну, я табе не казаў яшчэ, бо ня ведаў, які адказ атрымаю, а цяпер скажу. Я нядаўна напісаў ліст да дзядзькі Сьцяпана. Калі ў яго можна будзе табе жыць, дык я завязу цябе да яго ў горад і тады будзеш хадзіць у школу,—усьцешыў бацька Петрыка.

З гэтага дня хлопчык пачаў чакаць адказу. Нават у ночы дрэнна спаў, усё думаў:

— А вось дзядзька да сябе ня возьме, тады дзе жыць? Ізноў тут застануся.

То раптам сьняцца яму школа, кнігі, многа дзяцей, весела, цікава...

Аднойчы бацька радасна кажа Петрыку:

— Ну, праз тры дні паедзем у горад... Маці сабярэ твае рэчы і гайда за новую работу! Глядзі, будзь прыкладным, не лянуйся і ў школе і дома.

Петрык ад радасьці ня мог гаварыць. Усе тры дні ён праз вёў, як у сьне. Чакаў ад'езду.

Дачакаўся і ён радасьці. Цягнік, якіх так многа бачыў хлопчык і які вазіў гэтулькіх людзей, павёз і яго, маленькага Петрыка, у даўно чаканы горад, вучыцца, да дзяцей, да піонэраў...



*...Цягнік павез Петрыка ў даўно чаканы горад вучыцца, да дзяцей, да піонэраў...*



Японскія дзеці сьпяваюць „Інтэрнацыянал“

ЛІСТЫ З ЗАГРАНІЦЫ

# ЯК ЖЫВУЦЬ ДЗЕЦІ БЕДНАТЫ НА ЗАХАДЗЕ

## НАМ ЗАБАРАНЯЮЦЬ ПРАЦАВАЦЬ

Дарагія таварышы! Наш атрад вельмі жадае наладзіць перапіску з савецкімі дзецьмі. Мы хочам ведаць, што вы робіце, як выконваеце пастановы зьлёту.

Але мы ня можам адкрыта напісаць вам нават пісьмо. Прыходзіцца чакаць зручнага выпадку і перадаваць сваё пісьмо цераз тых таварышоў, што едуць да вас.

У нашым атрадзе 25 піонэраў. Мы вельмі дружныя і працаваць нам весела. Мы выступаем дружна ў школе супроць кепскіх настаўнікаў і зьдзекаў над беднымі вучнямі.

Апрача гэтага, дапамагаем вучыцца тым, хто адстае. Мы нават аб'явіцілі спаборніцтва: хто з нас лепш падрыхтуе адсталых вучняў. Піонэры павінны дапамагаць сваім таварышом.

Мы хацелі-б шырэй разгарнуць сваю работу. Але гэтага нельга зрабіць. За гэта нас могуць выгнаць са школы, а бацькоў з работы.

Аднак, мы ўсё-ж будзем працаваць, ня гледзячы на ўсякія забароны.

З прывітаньнем да вас
НАРВЭСКІЯ ПІОНЭРЫ З СЬНЕГЕТЭНУ

## У НАС ВЯЛІКАЯ БЯДА

**Дарагія таварышы!** У нас здарылася вельмі вялікая бяда.— Паліцыя арыштавала многа рабочых і комуністых. У ліку арыштаваных знаходзіцца бацька Луі і Жана—таварышоў з нашае групы.

Іх бацька Люкары выступіў на рабочым сходзе ў абарону СССР, а за гэта яго прысудзяць на шмат гадоў у турму.

Цяпер сям'я іх ня мае за што жыць, бо працаваў толькі адзін бацька. Маці іх ўвесь час хварэе. Луі і Жан вучацца ў школе, а рэшта дзяцей яшчэ зусім малыя.

Луі і Жану, мусіць, прыдзецца кінуць школу і шукаць дзе работы.

Усе рабочыя вельмі спачуваюць Люкарну і дапамагаюць чым могуць. Мы таксама сабралі сярод сваіх таварышоў крыху грошай для сям'і Люкарна.

Наогул, цяпер у нас вельмі цяжка жыць.

У мінулым пісьме мы пыталіся ў вас, як нам організаваць піонэрскі атрад. Цяпер для нас гэта вельмі важна. Цяпер надышоў такі час, калі ўсім нам трэба, як мага лепш, згуртавацца для змаганьня.

З прывітаньнем

ВАШЫ БЭЛЬГІЙСКІЯ ТАВАРЫШЫ З г. БРУСЭЛЮ



**Дзеці італьлянскай буржуазіі рыхтуюцца стаць фашыстымі**




*З жыцьця баўгарскіх рэволюцыянэраў*

Холадна і вільготна ў турме.

Маленькі Стаян Войніч ляжыць на нарах і дрыжыць ад холаду. Іншы раз пацукі дабіраюцца да яго і пачынаюць грызьню. Тады ён з крыкам усхватваецца і ўцякае з свайго месца.

Яго сусед, дзед Вайян, стукае ботам па нарах, каб разагнаць пацукоў і кажа Стаяну:

— Ідзі да мяне, хлопчык. Паскудныя пацукі не даюць табе спакою.



**Стаян расказаў дзеду, за што яго арыштавалі.**

У бяссонныя ночы маленькі Стаян расказаў дзеду, за што яго арыштавалі. Бацька яго комуністы. Калі баўгарскія стражнікі рабілі ў іх вобыск, дык бацьку забілі. Стаян хацеў заступіцца за бацьку і выцяў стражніка палкай па галаве.

За гэта ўжо трэці месяц сядзіць Стаян у турме.

Холад, бяссонныя ночы, кепская яда псуюць яго здароўе. Ён пахудзеў і стаў бялейшы за сьнег, і калі ходзіць, дык хістаецца на нагах ад слабасьці.

„Згнояць яны хлапчука ў турме“,—думае дзед Вайян.

* * *

Быў ясны вясновы дзень, калі вартавы ўвайшоў у турму, туды дзе сядзеў Стаян, і крыкнуў:

— Стаян Войніч!.. Зьбірайся хутчэй!.. Ды выходзь.

Яго вывялі да варот турмы і вартавы піхнуў яго:

— Ну, не аглядвайся!.. бяжы!..

* * *

Стаян адзін на вуліцы, азіраецца па бакох. Куды яму ісьці? Што рабіць?

Некі малады чалавек падышоў да яго.

— Цябе выпусьцілі з турмы? А колькі ты там быў?

— З восені.

— Гэта больш паўгода? А як цябе зваць?

— Стаян Войніч.

Малады чалавек палажыў яму на плячо руку.

— Ты—сын Сьцяпана Войніча?—Але. Я вельмі рад, што знайшоў цябе. Мы кожны дзень вартуем тут і чакаем, каго вызваляць з турмы... Хадзем са мною. Я—таварыш твайго бацькі. Табе будзе добра...

Малады чалавек прывёў яго да сябе і накарміў. А потым прынёс яму чыстую вопратку.

— Надзявайся, — сказаў ён.— Заўтра мы паедзем з табой далёка адсюль, за мяжу Баўгарыі. Там табе будзе добра.

* * *

У маленькім нямецкім горадзе Эгельсбурзе, абкружаным стогадовымі ліпамі, стаіць вялікі двухпавярховы дом. У ім шмат сьветлых і чыстых пакояў. Кожны дзень у гэтым доме і ў садзе, што знаходзіцца перад ім, чутны вясёлыя галасы і сьмех дзяцей.

Тут — маленькія французы, немцы, палякі, італьянцы, сербы. І тут баўгарын Стаян Войніч.

Гэта—дом МОПР'у. А МОПР дапамагае рабочым рэволюцыянэрам, якія сядзяць у капіталістычных турмах, дапамагае іх дзецям. МОПР клапоціцца, каб хутчэй выпусьцілі на волю тых, што сядзяць у турмах, клапоціцца аб іх сем'ях. МОПР будуе дзіцячыя дамы, у якіх дзеці рабочых рэволюцыянэраў знаходзяць прытулак і добры догляд.



**Малады чалавек палажыў яму на плячо руку.**

Стаян Войніч ходзіць тут першы дзень, як зачараваны. Вакол яго дзеці гуляюць, сьмяюцца на волі. І ён сам чыста адзеты, накормлены.

Кіраўніца Эльза Цорн пытае ў яго:

— Ты хворы? Табе не падабаецца тут?

Стаян сумна ківае галавой.

— Мне тут вельмі добра... Я толькі думаю пра бацьку... Я адплачу за яго ворагам працоўных!



# КАРМАРАНЫ-РЫБАКІ

I

Жыў у Кітаі багаты гандляр Лун-эр. Ён гандляваў рыбай, якую купляў траха не дарэмна ў мясцовых кармаранаў-рыбакоў.

Кармараны-рыбакі жылі на беразе рэчкі ў зямлянках, накрытых чаротам і саломай.

Яны лавілі рыбу пры дапамозе вывучаных птушак-кармаранаў, ад чаго і самі зваліся кармаранамі-рыбакамі.

Стары кітаец, кармаран-рыбак Вэй-цын быў галоўным дастаўшчыкам рыбы Лун-эру. Ён склаў арцель з рыбакоў і іх дзяцей, і гэта арцель кожны дзень лавіла рыбу.

Птушка - кармаран — крыху меншая за нашага гуся, з зялёна-чорнымі пер'ямі, з белаватай плямкаю на шыі і на хвасьце— вельмі добра ловіць рыбу. Калі яна ўбачыць рыбу, дык адразу кідаецца ў ваду і хапае яе вострым зубам, з загнутым канцом.

Рыбакі дастаюць яйцы кармаранаў, кладуць іх пад качак або гусей і выводзяць маленькіх кармаранаў. Яны падрастаюць, робяцца свойскімі і іх лёгка прывучыць, каб лавілі рыбу.

Раніцой Вэй-цын выганяў кармаранаў на бераг і, разам са сваім малым пляменьнікам Саўхо, садзіў іх у човен.

Тады выплывалі на сярэдзіну ракі. Хлопчык сьпіхаў кармаранаў у ваду і пачынаў біць калом па вадзе ды палохаць рыбу.

Кармараны кідаліся ў ваду і хапалі рыбу. Глытаць яе не маглі, бо на шыі ў кармарана надзета жалезнае колца, якое сьціскае горла.

Вэй-цын і Саў-хо падцягвалі за вяроўку кармарана да чоўна і вырывалі з яго горла рыбу.

II

Гандляр Лун-эр быў вельмі задаволены рыбакамі. Кожны дзень яны прыносілі яму вялі-

зарныя кашы рыбы. А ён плаціў за яе колькі хацеў.

— Добры гаспадару,—казаў часамі Вэй-цын,—ты плаціш вельмі мала. Мы ўсе галадаем, ня маем у што адзецца.

— Ня будзь зайздросны, дзед,—адказваў яму Лун-эр.— Кожнаму свая доля. Каб ня было мяне, дык дзе-б вы дзявалі сваю рыбу? Калі я багаты—значыць, неба любіць мяне і памагае мне.

Вэй-цын цяжка ўздыхаў, браў грошы і ішоў дадому.

III

Так праходзілі дні за днямі. Рыбаком цяжка было жыць і яны часта пазычалі ў Лун-эра грошы. А ён за доўг браў вялікую частку рыбы. Рыбакі бяднелі, Лун-эр багацеў. Але ў рыбацкі пасёлак зьявіўся сын Вэйцына—салдат Цын-лю.



Ён вярнуўся з вайны хворы, бяз рукі.

Беднасьць бацькі і другіх рыбакоў зьдзівіла яго.

— Вы самі вінаваты, што нічога ня маеце,—сказаў ён. Вось сёньня я сам пайду прадаваць рыбу вашаму гандляру,— і справа палепшыцца.

Вечарам ён прышоў да Лунэра і сказаў яму:

— Рыбы налавілі дванаццаць кашоў і хочам мець за іх дваццаць даляраў.

Лун-эр злосна нахмурыў бровы і сказаў:

— Гэта што за навіна. Прынясеце рыбу і я заплачу, колькі яна каштуе.

— Мы хочам за яе дваццаць даляраў і ня менш—сказаў Цынлю.

Лун-эр зусім узлаваўся;

— Дык выбірайся к чорту! Ня трэба мне вашай рыбы!

У тую-ж ноч Цын-лю з другімі рыбакамі павезьлі прадаваць рыбу ў горад. Яны вярнуліся праз тры дні і ўтаргавалі 50 даляраў. Але бацька спаткаў сына няласкава:

— Сын мой,—сказаў ён,—ты зрабіў нядобра. Лун-эр загневаўся на нас. Цяпер ён пагражае, што адбярэ ад нас чаўны і выганіць з зямлянак. У мяне ён забраў дзесяць птушак і малога Саў-хо.



## IV

У Лун-эра працавала некалькі дзяцей-батракоў. Ён іх „купіў" на некалькі год ад бацькоў.

Пасьля сваркі з рыбакамі, Лун-эр загадаў дзецям узяць тры чаўны і кармаранаў, што адабраў у Вэй-цына і ехаць лавіць рыбу.

Яны выехалі раніцою. Імі кіраваў васьмігадовы Саў-хо.

Дзеці працавалі да паўдня. Кармараны налавілі многа рыбы. Калі яны стаміліся, дык Саў-хо загадаў ехаць да берагу. Там яны вынесьлі з чаўноў усю рыбу. На беразе Саў-хо расклаў агонь і пачаў пячы маленькую рыбку, бо ён і дзеці былі вельмі галодныя.

Лун-эр вышаў у гэты час паглядзець з дому, як ловяць дзеці рыбу.

Ён убачыў, што хлапчукі сядзяць на беразе, ядуць рыбу і весела сьмяюцца.

Лун-эр раззлаваўся. Ён ціха падпоўз да дзяцей і схапіў Саў-хо за плячо.

— Якое ты маеш права есьці маю рыбу?! — крыкнуў Лун-эр і выцяў хлопчыка па твары.

— Калі-ж мы былі галодныя... — пачаў прасіцца Саў-хо.

Але Лун-эр ня слухаў яго, і сьпіхнуў нагою ў ваду.

Аднарукі Цын-лю бачыў усё гэта з свайго чаўна. Ён хутка падплыў да Саў-хо, які ўжо тапіўся, і выцягнуў яго у свой човен.

Потым ён падплыўся да берагу. Выскачыўшы з чаўна, ён падбег да Лун-эра і замахнуўся на яго вяслом.

Калі Цын-лю расказаў аб усім бацьку, дык той спалохаўся.

— Што ты нарабіў? Лун-эр багаты. Ён паскардзіцца начальству і цябе кінуць у турму. Бо ў нас усім кіруюць багацеі.

## V

Бацька сказаў праўду. Праз дзень у рабочы пасёлак прыехала паліцыя, яна арыштавала Цын-лю і адвезла ў горад.



Хлопчык-кітаец з маткаю. Яго бацьку буржуі пасадзілі ў турму.

# КОМБАЙН




Гэта такая машына. Ужываецца ў буйных соцыялістычных гаспадарках—колгасах і савгасах.

Яна жне, малоціць, зерне ачышчае.

Толькі ісьці сама ня можа: трактар яе цягне.

Раней у нас зусім ня было комбайнаў. Іх куплялі ў Амэрыцы.

А цяпер у нас будуюцца вялізарныя заводы, на якіх будуць рабіць савецкія комбайны.

Адзін завод будуецца ў Растове. Гэты завод будзе выпускаць 25 тысяч комбайнаў у год.

Другі завод будуецца ў Саратаве. Ён будзе выпускаць 15 тысяч комбайнаў у год.

І трэці завод, які будзе выпускаць 15—25 тысяч комбайнаў у год, будзе пабудаваны ў Сібіры.

---

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „Чырвоная Зьмена"

Рэдактары: Гайдукевіч. Якімовіч А.

Цана 18 кап.

# ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ

## ЖАРТЫ

### Колькі зубоў

— Слухай, Міхаська,—кажа настаўнік да вучня,—колькі зубоў мае чалавек?

— Поўную губу, таварыш настаўнік,—адказаў Міхаська.

### „Ударнікі"

— Дзеці, што-ж вы ў чацьвярых аднаго б'яце, гэтакжа нядобра.

— Дык мы-ж ударная брыгада!



*Чаго спужаўся хлопчык*

## ЗАГАДКІ

Ёсьць у мяне работнікі.
Ва ўсім памагаць ахвотнікі
Жывуць яны не за гарою:
Дзень і ноч са мною.
Усіх іх—дзесяць.
Адгадайце, дзеці!

## НОВЫЯ ГУЛЬНІ

Перад тым, як гуляць у гэтыя гульні трэба ведаць наступнае:

Калі вы гуляеце ў памяшканьні, дык яно павінна быць чыста падмецена і вымыта. Усё, што замінае, трэба прыбраць. Тое-ж самае павінна быць зроблена і на дварэ.



### Скакуны.

Удзельнікі гульні прысядаюць, узяўшы рукі на клубы, скачуць навыперадкі да вызначанага месца. Хто паваліцца—пакідае гульню. Перамагае той, хто першы даскача да вызначанага месца.

### Воўк і гусі.

Усе становяцца ў рад, трымаючыся за плечы пярэдняга і прадстаўляюць гусей, якіх пярэдні „гусак" абараняе ад „воўка". „Воўк" можа хапаць толькі задняга гуся. Ён бегае да таго часу, пакуль не пераловіць усіх.



Друкарня імя Сталіна     Зак. № 69.     У ліку 7.000 экз.     Галоўлітбел № 338.